# Як Гітлер із Сталінам дзялілі сьвет

Нямецкі тыднёвік «Эхо дэр Вохэ» публікуе цяпер рад фактаў і дакумэнтаў з «Сакрэтных актаў Гітлера», якія ў пяршыню кідаюць многа сьвятла на сваецка-нямецкую дружбу пасьля падпісаньня ў 1939 г. Молатавам і Рыбэнтропам ведамага пакту аб ненападаньні, які даў магчымасьць Нямеччыне распачаць другую сусьветную вайну. З гэтых дакумэнтаў вынікае, што пад маскаю нявіннага пакту аб ненападаньні крылася цеснае ваеннае супрацоўніцтва Сталіна із Гітлерам, якое выразна мела на мэце поўнае зьнішчэньне заходніх дэмакратыяў і падзел сьвету: Эўропы, Азіі, Афрыкі й Аўстраліі (Амэрыка, пакуль што, ня бралася пад увагу) паміж чатырма таталітарнымі гаспадарствамі: Нямеччынай, Італіяй, Японіяй і Савецкім Саюзам.

Тагачасны міністар замежных справаў Нямеччыны Рыбэнтроп у сувязі з гэтым прыгатаваў адобраны Гітлерам праект тайнага пратаколу, які быў прадстаўлены Молатаву 13 лістапада 1940 г. падчас ягоных наведзінаў Бэрліна. Згодна гэтага пратаколу Савецкі Саюз павінен быў прыступіць да пакту трох (Нямеччына — Італія — Японія) з тым, што пасьля пераможнага заканчэньня вайны сьвет быў-бы падзелены паміж удзельнікамі гэтага пакту наступна: Нямеччыне, паза эўрапэйскімі здабыткамі, прыпалі-б сярэдня-афрыканскія тэрыторыі, Італіі — землі паўночнай і паўночна-ўсходняй Афрыкі, Японіі — усходнеазіятыцкія тэрыторыі, палажаныя на поўдзень ад японскіх астравоў, і Савецкаму Саюзу — абшырныя тэрыторыі на поўдні ад СССР у кірунку Індыйскага акіяну.

Молатаў гэты плян поўнасьцю заапрабаваў і згадзіўся на далучэньне Савецкага Саюзу да пакту трох пад умовай, што СССР будзе ў ім разгляданы не як пасыўны аб'ект, але як дзейны партнэр.

Калі-ж пры гэтым узяць пад увагу вялізарныя ваенныя даставы Савецкага Саюзу Нямеччыне, дык дойдзем да вываду, што Сталін у 1939-40 г. быў найвялікшым ваенным пастаўшчыком для Нямеччыны й выдатна спрычыніўся да хуткага й пераможнага заканчэньня нямецкае кампаніі ў Бэльгіі, Галяндыі й Францыі, а, дзякуючы вялізарным даставам савецкае бэнзіны, Гітлер меў магчымасьць бамбардаваць Лёндан.

Адзін галоўны партнэр гэтага злачыннага супрацоўніцтва гітлераўскай Нямеччыны з СССР — Рыбэнтроп, як ваенны праступнік, на моцы прысуду міжнароднага трыбуналу (з удзелам Саветаў) быў павешаны ў Нюрнбэргу. Другі такі-ж самы партнэр — Молатаў прыймае сяньня ўдзел у розных міжнародных канфэрэнцыях, дзе выступае супраць «англа-амэрыканскіх плянаў агрэсыі» ў вабароне міру.

(ст.).

### ЖОНКА ЧАНГ-КАЙ-ШЭКА ПРОСІЦЬ ПОМАЧЫ АД ЗША

Жонка кітайскага прэзыдэнта Чанг-Кай-Шэка 21 лістапада зьвярнулася цераз радыё зь сьпешнаю просьбаю да ЗША прыйсьці зь безадкладнай помаччу нацыянальнаму Кітаю. Гэтая помач ляжыць у інтарэсах самой-жа Амэрыкі, бо ў праціўным выпадку ўся Азія апынецца ў руках камуністых.

Цэнтральны камітэт кітайскай камуністычнай партыі абвесьціў цераз радыё праклямацыю, у якой заяўляе, што ён ня прызнае ніякай умовы, заключанай нанкінскім урадам, якая будзе нарушаць незалежнасьць і цэласьць Кітая. Калі ЗША вышлюць свае войскі ў Кітай, будзе гэта ўважаца за збройны напад на цэласьць і незалежнасьць Кітая. У праклямацыі зазначана, што камуністыя будуць бараніць усе законныя інтарэсы іншых гаспадарстваў, у першую чаргу амэрыканскія на занятай імі тэрыторыі.

### АМЭРЫКАНСКІЯ РАБОТНІКІ СУПРАЦЬ САВЕТАЎ

Амэрыканская Фэдэрацыя Працы прыняла 21 лістапада рэзалюцыю, якая дамагаецца заключэньня вайсковага саюзу паміж ЗША й запрыязьненымі гаспадарствамі ў мэтах абароны перад Саветамі й парваньня гандлёвых дачыненьняў усіх дэмакратычных краінаў з Савецкім Саюзам на час, пакуль ня будзе спынена «барбарская блякада Бэрліна».

### АНГЕЛЬСКІ КАРОЛЬ ХВОРЫ

22 лістапада было афіцыяльна паведамлена аб хваробе ангельскага караля Георга VI, які цярпіць на хваробу кружэньня крыві ў абодвых нагах. Гэтая вестка ў цэлай брытанскай імпэрыі была прынятая з азнакамі глыбокага спачуваньня.

### НОВЫ ПРЭМ'ЕР КАНАДЫ

Дасюлешні 74-ох летні прэм'ер Канады Макэнзі Кінг, пасьля 40-летняй палітычнай дзейнасьці, адмовіўся ад свайго становішча. Становішча прэм'ера абняў перад некалькімі днямі Ляўрэнт — правадыр лібэральнай партыі й дасюлешні міністар замежных справаў.

імпэрыялістычных мэтаў будуць імкнуцца захапіць Беларусь, а наш народ і далей трымаць у няволі. Таму збудаваць нашую будучыню зможам толькі мы самі шляхам ахвярнага й непахіснага змаганьня пры выяўленьні ўсіх нашых сілаў і ўсяе нашае волі.

Таму якраз глыбока ідэйны характар Слуцкага паўстаньня зьмяшчае многа павучальнага й для нас сяньня. Палажэньне беларускага народу пад беспрыкладным бальшавіцкім гнётам і крывавым тэрорам ёсьць незвычайна цяжкае й трагічнае. Аднак беларускі народ не заламаўся пад цяжарам няволі й ня страціў веры ў лепшую будучыню. Ягоны здаровы сялянскі інстынкт і загартаванасьць у доўгім змаганьні не дазволілі зламаць ягонае волі й імкненьняў да лепшага жыцьця, на якое мае ён натуральнае права. Гэтую веру захавалі й мы, беларускія палітычныя эмігранты. Як увесь наш народ на Бацькаўшчыне, так і мы на эміграцыі зьяўляемся заўсёды гатовымі змагацца за ажыцьцяўленьне нашай агульнанацыянальнай ідэі, як толькі наступіць адпаведны для гэтага мамэнт. А прыгатаўляючыся да гэтага вялікага змаганьня, мы павінны ўзброіцца ўсімі тымі высокімі ідэйнымі якасьцямі, якія вялі ў бой адважных Случчакоў. Усяцэлае й безаглядная ахвяраваньне сябе для ідэі без увагі на собскі інтарэс зьяўляецца адзінай і неабходнай перадумовай для дасягненьня перамогі.

Маючы ўсюды й заўсёды гэта на думцы, мы павінны вызбыцца ўсякіх эгаістычных інстынктаў, а старацца разьвіць у сабе глыбокія ідэйныя вартасьці, каб стацца падобнымі да Слуцкіх паўстанцаў.

# АМЭРЫКАНСКІЯ СПАСЬЦЯРОГІ

## АБ САВЕКІМ САЮЗЕ

Француская газэта «Самэды Суар» нядаўна зьмясьціла цікавы артыкул аб авіяцыі, прамысловасьці й памылках савецкай дыпляматыі на падставе дадзеных амэрыканскай тайнай разьведкі. З глядзішча на тое, што гэты артыкул зьмяшчае весткі й спасьцярогі цікавыя й для беларускага чытача, перадрукоўваем яго тут у скарачэньні.

«Узровень разьвіцьця авіяцыі ў Савецкім Саюзе — піша газэта — яшчэ дакладна няведамы. Амэрыка здагадваецца, што Саветы маюць: 8.200 цяжкіх баёвых самалётаў, 6.000 вучобных і транспартных і каля 10.000 зьнішчальнікаў. На асаблівую ўвагу тут заслугоўваюць навейшага тыпу зьнішчальнікі й бамбавікі зь вялікім радыюсам дзеяньня.

Што датычыцца зьнішчальнікаў, то чырвоны паветраны флёт мае, у найменшай меры, шэсьць розных тыпаў зьнішчальнікаў, якія, згодна думкі спэцыялістых, адказваюць апошнім вымаганьням тэхнікі й вызначаюцца нязвычайнай шыбкасьцю. Бамбавікі тыпу «лятаючых крэпасьцяў» Савецкі Саюз падчас вайны атрымліваў галоўным чынам з Амэрыкі й яны пасылаліся туды разабранымі на паасобныя часткі. Хаця адначасна й пасылаліся у расейскай мове аб'ясьненьні аб тым, як асобныя часткі трэба было складаць і мантаваць, аднак савецкім манцёрам самым зрабіць гэтага не ўдавалася, а дзеля гэтага прыйшлося пасылаць у СССР адпаведную колькасьць амэрыканскіх спэцыялістых. Апошнім часам савецкія інжынеры зрабілі вялікі поступ: ім удалося сканструаваць чатырохматорныя бамбавікі тыпу «Туполеў 70», якія зьяўляюцца амаль дакладнай копіяй «лятаючых крэпасьцяў».

У некаторых дачыненьнях савецкія бамбавікі, магчыма, лепшыя за амэрыканскія, аднак яны маюць і вялікі мінус: яны ня могуць так доўга знаходзіцца ў паветры, як амэрыканскія. Яны, праўда, маглі-б бамбардаваць амэрыканскі кантынэнт, аднак гэтае бамбардаваньне абазначала-б пагібель іх самых, бо ім не хапіла-б часу вярнуцца на свае базы.

Што датычыцца прамысловасьці, то ведама, што яна ў Саветах падчас вайны вельмі моцна пацярпела. Паводля дадзеных амэрыканскіх экспартаў, да 93% яна ўжо адбудаваная. Прыкладам, прадукцыя сталі ў 1947 г. выносіла ўжо 18.000.000 тонаў. Паводля словаў Сталіна, прадукцыя сталі ў 1950 г. павінна дасягнуць 25.400.000 тонаў. Тут варта адцеміць, што прадукцыя сталі ў Амэрыцы ў 1947 г. раўнялася 100.000.000 тонаў.

Яшчэ большая розьніца ў прадукцыі бэнзіны. Амэрыка дабывае яе 2 мільярды тонаў у год, а СССР усяго толькі — 200 мільёнаў. Амэрыка ані трохі не баіцца, што Савецкі Саюз у гэтай галіне можа яе дагнаць, а тым больш перагнаць. Савецкі Саюз у дадзены мамэнт асаблівую зьвяртае ўвагу на разьвіцьцё цяжкай прамысловасьці. Галіна дробнай мэханікі й прыгатаўляньне дакладных інструмэнтаў не стаіць на такім высокім узроўні, як у Амэрыцы. У сяньняшні мамэнт СССР выпрадукоўвае столькі радыяапаратаў, колькі Амэрыка вырабіла іх у 1930 г.; столькі аўтамабіляў, колькі Амэрыка — у 1923 г. Сяньняшняя прадукцыя тэлефонных апаратаў СССР раўняецца прадукцыі Амэрыкі ў 1910 г. Наагул можна сьмела сказаць, што прадукцыя савецкай прамысловасьці раўняецца аднэй дзесятай часьці амэрыканскай прадукцыі.

У 1947 г. у СССР было выканана 100 мільёнаў параў чаравікаў. Калі пяцігодка будзе поўнасьцю выканана, тады прадукцыя абутку ў 1950 г. будзе раўняцца 240 мільёнам параў. Але гэтым будзе толькі дасягнуты ўзровень 1940 году, калі мільёны савецкіх грамадзянаў хадзілі босыя.

У вельмі крытычным палажэньні ў СССР знаходзіцца кватэрнае пытаньне. На аснове дадзеных самой-жа савецкай статыстыкі, на адно сярэдняе памешканьне з чатырох пакояў, у якім перад вайной жыло 14 чалавек, прыходзіцца цяпер 30 чалавек. Апошняя акалічнасьць служыць прычынай глыбокага незадаваленьня, якое асабліва моцнае на паўдні й на Каўказе.

Паводля вестак амэрыканскай разьведкі, СССР матарыяльна ўжо на столькі моцны, якім быў у 1941 годзе, але маральна ў шмат разоў слабейшы, чымсьці быў у пачатку вайны ў мамэнт нямецкага наступу. Амэрыка ўважае, што гэтая слабасьць яшчэ павялічыцца пасьля сьмерці Сталіна, а гэта таму, што няма чалавека, які мог-бы яго з пасьпехам замяніць. Ягонае месца праўдападобна займе трыумвірат, у якім будуць прадстаўлены: паліцыя ў васобе Бэрыі, армія ў васобе Булганіна й прамысловасьць у васобе Кагановіча або Мікаяна. Асобнае месца пры гэтым трыумвірацэ займе Молатаў, які не зьяўляецца прадстаўніком абазначаных колаў.

Доўгі час глядзеў Вашынгтон на крэмлёўскіх правадыроў, як на салідных, гатовых да мірнага супрацоўніцтва людзей. Памылкі савецкіх палітыкаў прывялі да поўнае рэвізіі амэрыканскае палітыкі. Калі-б СССР задаволіўся на нейкі час вялізарнымі ўступкамі, якія былі яму зробленыя ў Тэгэране й Ялце, то ён зрабіў-бы гэтым хоць некалькі жэстаў, якія маглі-б быць вытлумачаны, як ахвота да супрацоўніцтва. Няма сумліву, што ў такім выпадку Амэрыка разаружылася-б поўнасьцю. Абразьлівыя выступленьні Молатава й Грамыкі, Букарэскі й Сафійскі працэсы, падзеі ў Чэхаславаччыне й цяперашнія ўколы ў Бэрліне радыкальна зьмянілі дачыненьні Амэрыкі да СССР і могуць быць разгляданы, як грубыя памылкі савецкай дыпляматы.

Часамі Вашынгтон ставіць пытаньне, наскольки правільна бывае наагул інфармаваны Крэмль аб сусьветным палажэньні. Цяжка сказаць, ці перадаюць савецкія прадстаўніцтвы заграніцай правільныя інфармацыі ў Маскву, ці інфармуюць толькі аб тым, што падабаецца Сталіну. У свой час Гітлер, пачынаючы вайну, не ўважаў за патрэбнае лічыцца з магчымай рэакцыяй Амэрыкі, а калі яго папярэджвалі аб гэтым, дык ён злаваў да тае ступені, што мала хто адважваўся гаварыць зь ім аб гэтым.

Што датычыцца розных агрэсыўных актаў Савецкага Саюзу, дык Амэрыка перакананая, што ў васнове многіх зь іх ляжыць пачуцьцё страху.

Р.

### «НЯМЕЦКІЯ КАМУНІСТЫЯ — ГЭТА ПЕРАДУСІМ НЕМЦЫ»

Як падае гэтымі днямі «Нью-Ёрк Гэральд Трыбюн», абодвы старшыні нямецкай партыі сацыялістычнай еднасьці (камуністыя) Вільгэльм Пік і О. Гротэволь разам з чатырма іншымі нямецкімі камуністымі зьвярнуліся ў вадным пісьме да савецкага маршала Сакалоўскага з просьбаю спыніць блякаду Бэрліна. Блякада — гаворыцца ў пісьме — падміноўвае камуністычны рух у Нямеччыне. Дзякуючы гэтаму партыя з кажным днём траціць верных у мінуўшчыні староньнікаў і дысцыпліна ўнутры партыі што раз падае. Нямецкія камуністыя зьяўляюцца добрымі камуністымі, але яны таксама й немцы. Гэтае пісьмо было маршалам Сакалоўскім прынятае вельмі няпрыхільна. Ён падчас размовы закінуў Піку й Гротэволю «вузкі нацыяналізм» і скрыўленьне лініі партыі. Сакалоўскі папярэдзіў нямецкіх камуністых перад паўторным выпадкам такой нездысцыплінаванасьці.

### ЗАКОН АБ РАЗБРАЕНЬНІ ПРЫНЯТЫ

Пленарная сэсія ЗН прыняла 19 лістапада праект разбраеньняў заходніх гаспадарстваў 43 галасамі супраць 6 галасоў Савецкага Саюзу й сатэлітных гаспадарстваў. Закон прадбачвае стварэньне міжнароднага кантрольнага органу, які будзе мець права дамагацца дадзеных аб збраеньні паасобных сяброў ЗН і іх апублікоўваць. На гэтай-жа сэсіі 39 галасамі супраць 6 і пры 6 ўстрымаўшыхся быў канчальна адкінуты савецкі праект, які дамагаўся зьмяншэньня арміі вялікіх гаспадарстваў на адну трэйцюю часьць, забароны атамнае бомбы й выяўленьня стану збраеньняў перад інтэрнацыянальнай арганізацыяй, якая знаходзілася-б у веданьні Рады Бясьпечнасьці.

# ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

## ПРА КАНСАЛІДАЦЫЮ

(Фэльетон).

**Паважныя, спадары Рэдакцыя!**

У нумары 29-м вашае газэты вы ўмясьцілі стацьцю пад загнётам «Справа кансалідацыі». Тамака вы пішаце, што ўсе людзі хочуць, каб «рэдакцыя ўзяла на сябе ініцыятыву кансалідацыі ўсяго беларускага грамадзянства на чужыне і распачала ў гэтым кірунку на сваіх балонках адпаведную акцыю».

Гэтыя радкі нас вельмі ўсьцешылі. Або-ж і праўда, калі азірнуцца, навакол, па ўсіх чужых селішчах, то скрозь, памінаючы бавораў, людзі жывуць, як браты, а ў нас — не. А чаму? — гэтага ня ведаем.

Як шчэ за старымі грашыма прыяжджаў на наш хутар араталь зь Міхайлаўкі, то ён казаў, што ўва ўсіх нашых неладох вінаватая шопка і крывічы, бо яны ў нейчы бок цягнуць. Наш Ксавэры тады моцна пакрыўдзіўся, чаму яго да віны чапляюць і быў ужо рукавы закасаў, каб выцяць араталя, але той пачаў бажыцца і клясьціся, што ён ня меў на мэце каго-небудзь з прысутных абразіць і што ён гаварыў не пра нашага Шопку Ксавэрага, а зусім пра інакшае, а пра якога шопку — гэтага не сказаў.

А пазьней прыехаў да нас прамоўца зь Вялікага Двара, дык той наадварот прамаўляў, што ўсё ліха ад зарубежнікаў, якія таксама цягнуць у нейчы бок.

А быў у нас яшчэ адзін маладзян, студэнцік з Марыніграду, дык той крычэў, што ўсе вінаватыя — і адныя і другія, а ўвесь паратунак у правільным кірунку. І гэты кірунак ён нават на дошцы крэйдай крэсьліў.

«Вось гэтая крывая лінія, кажа, гэта ёсьць крывічы, а гэтая, што я цяпер крэсьлю, ламаная лінія — гэта будуць зарубежнікі, а вось я ваду цяперка пасярэдзіне простую лінію, якая ні ад якіх ліній не залежыць, — гэта і ёсьць правільны кірунак, па якім мы павінны йсьці да дасягненьня нашых агульнанацыянальных незалежніцкіх..., а далей забыліся, што казаў.

Ведама, ён студэнт, дык лініі крэсьліць умее. Але-ж нам, спадары рэдакцыя, ад гэтага не лягчэй. Бо калі на дошцы або на паперы і накрэсьлены розныя лініі, то калатня ўсёроўна йдзе. І чаму мы, беларусы, мусім цярпець і гэтую калатню зносіць, калі нехта вінаваты, або ў розныя бакі цягне? Гэта няправільна.

І вось, спадары рэдакцыя, як ужо прайшло шмат часу, а на вашых балонках тае акцыі яшчэ ня відно, то мы і ўзялі на сябе зачын пасунуць наперад справу кансалідацыі. А калі вы, спадары рэдакцыя, думаеце, што гэтая праца лёгкая, то вы мыляецеся. На шляху да кансалідацыі ляжаць вялікія завалы. А вось-жа: пакуль мы зьбілі свой пяток, то колькі было галасу й звадак. Калі мы сабраліся на першы кансалідацыйны сход і наш прафэсар (але на бацькаўшчыне ён прафэсарам шчэ ня быў) нам выклаў, што такое кансалідацыя, то пачалі прыгадваць усе старыя крыўды. Янка Самасей успомніў Сьцяпану Кацапаву, як той пазычыў 3 нямецкія маркі і скруціў. Піліп Канапельскі ўпікнуў Тараса Бурбалку за тое, што той яго з пасады сыпхнуў, як быў нейкім старшынёй, а пасадзіў свайго сябруна. Калісь даўно Піліп Канапельскі падаў якуюсь цыдулу на Ксавэрага Шопку — і гэта ўспомнілі. А ў Кацапава і Шопкі на той дзень былі бабы пасварыліся, дык і гэта стаяла перашкодай на дарозе да кансалідацыі. Было й шмат драбніцаў, але мы, спадары рэдакцыя, усё гэта перацярушылі й адвеялі перад агульнай ідэяй. Гэтым зачынам, мы ўпяцёх зьбілі моцны таўкач і будзем далей рушыць справу.

Але, спадары рэдакцыя, як мы ня маем ад вас ніякіх інструкцыяў, то просім паведаміць, што нам рабіць з нясьведамымі і як іх прыцягнуць да кансалідацыі? Ёсьць у нас такі Якуб Чапурнэцкі, то калі ён пачаў чытаць лісту скансалідаваных і дайшоў да прозьвішча Вераб'я Рыгора, то сказаў: — «Стой! З гэстым я ня буду кансалідавацца і яго трэба аджуціць». А калі мы спыталіся чаму, бо Верабей у нас хлапец сьведамы, маральны і гарыць на працы, то ён кажа таму, што Верабей — усходнік. А мы на гэта кажам: «дакуль-

